# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

 **СВЕТ**  **БССР**  **ПОЛЬШЧА**  **ВАЯВОДСТВА**

### ЮБІЛЕЙНЫ ФЕСТЫВАЛЬ

Дваццаць тысяч дзяўчат і хлопцаў з больш чым 140 краін прымае ўдзел у X Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у Берліне. Па сваёй шырыні і прадстаўніцтву ён перасягнуў усе папярэднія фестывалі.

Аб папулярнасці і значэнні X фестывалю сведчыць і тое, што на ім акрэдытавана рэкордная колькасць журналістаў. Заяўкі на акрэдытацыю прыслалі і тыя краіны, якія раней ніколі гэтага не рабілі.

Ніводзін з ранейшых фестываляў не праводзіўся ў такой спрыяльнай абстаноўцы. У міжнародных адносінах намецілася яўная тэндэнцыя да разрадкі напружанасці, да супрацоўніцтва, што можа прывесці да трывалага, працяглага міру. Пераход ад „халоднай вайны" да адносін міру, узаемнай павагі, да супрацоўніцтва паміж дзяржавамі розных сацыяльных сістэм знаходзіць адлюстраванне ў маладзёжным руху.

У Берліне намечана абмеркаваць практычна ўсе праблемы сучаснай міжнароднай палітыкі. Колькасць планаваных палітычных мерапрыемстваў — больш за 500. Асаблівасць гэтага фестывалю заключаецца ў тым, што ён не абмяжоўваецца рамкамі праграмы.

На берлінскім фестывалі апынуліся прадстаўнікі ад 1700 маладзёжных арганізацый свету, 0,5 мільёна турыстаў з іншых краін, а ўвогуле адбылося 1500 мерапрыемстваў.

### З НАГОДЫ СВЯТА

20 гадоў таму назад штурм казарм Манкада абвясціў канец праімперыялістычнай дыктатуры на Кубе.

Напярэдадні свята працоўныя Кубы атрымалі ключы ад 13 тысяч добраўпарадкаваных кватэр, пабудаваных сіламі брыгад-добраахвотнікаў.

Звыш 6.700 гектараў урадлівых зямель адваявана ў хмызнякоў, пры чым работа была закончана на два месяцы раней тэрміну.

### НОВАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ

24 ліпеня ў Каіры абвешчана стварэнне новай маладзёжнай арганізацыі — Арабскага сацыялістычнага саюза Егіпта. Аб гэтым аб'явіў прэзідэнт АРЕ Анвар Садат, які выступіў на масавым мітынгу прадстаўнікоў егіпецкай моладзі, што адбыўся ў Каірскім універсітэце.

### НЯШЧАСНЫЯ ВЫПАДКІ

У мінулым годзе ў Японіі зарэгістравана 1.400 тысяч няшчасных выпадкаў на вытворчасці, у тым ліку 5.600 са смяротным зыходам. Прычым 77 прац. няшчасных выпадкаў мелі месца на сярэдніх і невялікіх прадпрыемствах, на якіх занята менш ста чалавек.

### МАЙСТЭРНЯ ФАЛЬШЫВЫХ ГРОШАЙ

Паводле заявы Скотланд-Ярда, у Англіі выяўлена „адна з буйнейшых у Заходняй Еўропе майстэрань па вырабу фальшывых грошай". Англійская паліцыя захапіла некалькі дзесяткаў скрынак з фальшывымі фунтамі стэрлінгаў, французскімі франкамі, амерыканскімі і аўстралійскімі доларамі на агульную суму 10 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў.

(ак)

### ПЛАН ПЕРАВЫКАНАНЫ

Цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне БССР паведамляе, што план першага паўгоддзя 1973 года па рэалізацыі прамысловай прадукцыі выкананы на 102,7 прац. Перавыканаы план выпуску большасці важнейшых відаў вырабаў. У параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года аб'ём прамысловай вытворчасці павялічыўся на 9,9 прац., прадукцыйнасць працы ўзрасла на 7,1 прац.

### ПАМЯЦІ У. МАЯКОЎСКАГА

Беларускі савецкі друк шырока адзначыў 80-ую гадавіну з дня нараджэння выдатнага трыбуна рэвалюцыі Уладзіміра Маякоўскага. Пімен Панчанка на старонках „Літаратуры і Мастацтва" піша, што „...Маякоўскі сустракаўся з працоўнымі Беларусі, моладдзю, беларускімі пісьменнікамі, быў госцем Старшыні Савета Народных Камісараў Язэпа Адамовіча. Паэт радаваўся росквіту савецкіх рэспублік і брацкіх літаратур. У 1927 годзе Маякоўскі быў у Варшаве па запрашэнню мясцовага ПЭН-клуба. З ім гутарыў рэдактар часопіса „Польска вольносць". Паэт расказваў пра літаратарў Расіі, Грузіі, Украіны. „З беларусаў хачу звярнуць вашу ўвагу на Коласа", — заявіў тады Маякоўскі.

### НА РАДЗІМЕ МІЦКЕВІЧА

Група беларускага аддзялення Брэсцкага педінстытута імя А. Пушкіна пабывала на экскурсіі па маршруту: Брэст — Навагрудак — Стаўбцы — Мінск — Вільнюс — Гродна — Брэст. Праяжджаючы па радзіме А. Міцкевіча, студэнты наведалі музей паэта ў Навагрудку, пабывалі на кургане, які быў насыпаны ў памяць аб ім. У Смольне на Стаўбцоўшчыне сустрэліся з братам Я. Коласа — Язэпам, у Мінску наведалі музей Я. Купалы і Я. Коласа, у Гродна глядзелі домік Элізы Ажэшкі, а ў Вільнюсе хадзілі тымі вуліцамі, дзе калісьці вучыўся Ф. Багушэвіч.

### ПОМНІК БАГДАНОВІЧУ

Халопеніцкая сярэдняя школа Крупскага раёна носіць імя класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Вучні школы рашылі ўстанавіць помнік любімаму паэту. Яны доўга і шчыра працавалі, каб сабраць патрэбную суму грошай. І вось нядаўна ў Халопеніцкай школе ва ўрачыстай абстаноўцы быў адкрыты бюст бессмяротнаму песняру.

### НОВЫЯ МУЗЕІ

Загадам міністра культуры БССР вырашана адкрыць новыя краязнаўчыя музеі ў раённых цэнтры Капыль і ў вёсцы Дукора Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці. Экспанаты ў Капыльскі музей жыхары горада збіралі на працягу 4 год. Накапілася іх больш за тысячу. Адлюстроўваюць яны перш за ўсё падзеі грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў.

У Дукорскім музеі налічваецца ўжо каля 5 тыс. экспанатаў. Гэтая вёска існуе звыш 200 гадоў. Пісьмовае ўпамінанне аб ёй датуецца 1767 годам. З Дукоры выйшла многа слаўных людзей, а жыхары гэтай вёскі адзначыліся ў змаганні за савецкую ўладу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і ў партызанскай барацьбе з фашыстамі. (вр)

### ДЭЛЕГАЦЫЯ ДРВ У ПОЛЬШЧЫ

З візітам дружбы прыехала ў нашу краіну дэлегацыя ДРВ на чале з прэм'ерам Фам Ван Донгам. Размовы вяліся з польскімі палітычнымі правадырамі. Дэлегацыя наведала Шлёнск і кракаўскую зямлю, між іншым Закапанэ і Паронін. Пасля звароту ў Варшаву, Фам Ван Донг сустрэўся з 300-асабовай групай в'етнамскай моладзі, якая вучыцца ў польскіх вышэйшых школах. Потым дэлегацыя ДРВ у суправаджэнні прэм'ера П. Ярашэвіча наведала Прушкаў пад Варшавай, дзе на чыгуначным прадпрыемстве адбыўся мітынг дружбы. З прамовамі выступілі Пётр Ярашэвіч і Фам Ван Донг.

У выніку размоў паміж дэлегацыяй ДРВ і ўладамі ПНР быў падпісан дакумент аб гаспадарчым і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве паміж абедзвюма краінамі. На заканчэнне візіту апублікавана супольная заява.

### 70-АЯ ГАДАВІНА II З'ЕЗДУ РСДРП

70 год мінула ад часу, калі на II з'ездзе Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі ў Бруселі ў 1903 годзе Ленін сфармулаваў бальшавіцкую праграму працы і барацьбы. Быў гэта пералом у рускай сацыял-дэмакратыі, якая сваёй дзейнасцю распасціралася ў той час на польскія землі.

З выпадку гадавіны ў краіне адбываліся мерапрыемствы, якія адзначалі гэты факт. У Варшаве сабралася група ветэранаў рабочага руху. З іх удзелам адбылася сустрэча ў будынку Сейма, на якой са словам выступіў Ф. Шляхціц — член Палітбюро і сакратар ЦК ПАРП. У варшаўскім Музеі Леніна была адкрыта выстаўка, якая ілюструе ролю і значэнне II з'езду РСДРП і нараджэнне новай пралетарскай праграмы палітычнай барацьбы.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО ЦК

На чарговым пасяджэнні Палітбюро ЦК займалася праблемамі, якія выцякаюць з II кангрэсу польскай навукі. Палітбюро сцвердзіла, што вынікі навуковых даследаў трэба ўсё шырэй прымяняць на практыцы.

### ПОЛЬСКАЕ ВІНШАВАННЕ ДЛЯ КУБЫ

У сувязі з 20-ай гадавінай кубінскай рэвалюцыі — адначасова нацыянальнага свята Кубы — партыйна-палітычнае кіраўніцтва ПНР выслала ўладам і насельніцтву Кубы віншавальную тэлеграму.

### Э. ГЕРЭК У ПЛОНСКІМ ПАВЕЦЕ НА МАЗОЎШЫ

І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў Плонскі павет у Варшаўскім ваяводстве, дзе пазнаёміўся са станам жніўных прац. Наведаў таксама новы, найбольшы ў краіне халадзільнік сельскагаспадарчага пладоў „Гартэнкс" у Плонску.

### КАНІКУЛЫ 1973

З розных форм арганізаванага адпачынку для дзяцей і школьнай моладзі скарыстаецца гэтым летам 2.133.000 асоб.

### ГМІННЫЯ ШКОЛЫ

Першыя гмінныя школы ўзніклі год таму назад. Было іх тады толькі 12. У верасні гэтага года распачне працу 700 гмінных школ. (вл)

### ЖНІВО

У многіх гаспадарках ужо заканчваецца кашэнне жыта. Пачаўся збор яравых. Частыя дажджы вельмі перашкаджаюць у звозцы жыта з поля. Выкарыстоўваецца кожная хвіліна добрага надвор'я. Вялікую дапамогу старым і адзінокім людзям аказвае вясковая моладзь — гурткі БГКТ, ЗСМВ і гарцэры. Лозунг, кінуты, як штогод, ЗСМВ — „Кожны колас на вагу золата", падхоплены ўсей моладдзю, якая прабывае ў час жніва на вёсцы.

### ТАВ. Е. ЛУКАШЭВІЧ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

26 ліпеня на Беласточчыне прабываў сакратар ЦК ПАРП тав. Е. Лукашэвіч. Госць цікавіўся ходам жніўнай кампаніі ў нашым ваяводстве, а таксама падрыхтоўкай да Цэнтральных дажынак. Разам з І сакратаром ВК ПАРП тав. З. Куроўскім Е. Лукашэвіч пабываў на пляцы будовы сельскагаспадарчай выстаўкі.

### НОВЫ КАМУНІКАЦЫЙНЫ ВУЗЕЛ

28 ліпеня адбылася ўрачыстая афіцыяльная передача новага камунікацыйнага вузла на скрыжаванні вуліц Звыцэнства, Гетманскай і Гагарына ў Беластоку. Новы вузел знаходзіцца на важным камунікацыйным шляху Е-12, які перасякае Беласток з захаду на ўсход. Новае вырашэнне і тэхнічнае выкананне вузла значна паправіла бяспеку руху на гэтым скрыжаванні і з'яўляецца новым прыгожым і сучасным элементам у выглядзе нашага горада.

### З ПАВЕДАМЛЕННЯ ВУС

Ваяводскае статыстычнае ўпраўленне (ВУС) апублікавала інфармацыю аб выкананні плана развіцця гаспадаркі ваяводства за І паўгоддзе 1973 года. У сельскай гаспадарцы ў мінулым паўгоддзі наступіў узрост агульнай плошчы пад пасевамі на 1,2 прац. коштам загаспадарання адлогаў. Павялічылася плошча, занятая цукровымі буракамі, бульбай, рапсавымі і агароднінай. Зменшылася плошча пад пасевамі збожжавых культур. У параўнанні да мінулага года павялічылася пагалоўе быдла на 7,5%, а свіней — на 22,7%. Скупка жывёлы на ўбой узрасла за гэты перыяд на 11,6%. На 11% павялічыліся дастаўкі малака.

У прамысловасці таксама зазначыўся дынамічны ўзрост прадукцыі. У параўнанні да першага паўгоддзя мінулага года вартасць глабальнай прадукцыі ўзрасла на 14,3%. Найвышэйшая дынаміка ўзросту прадукцыі наглядалася ў прамысловасці будаўнічых матэрыялаў (34,4%), машыннай (20,7%), дрэваапрацоўчай (17,1%) і харчовай (13,3%) прамысловасцях. Колькасць рабочых узрасла за той час на 8,7%.

### ВЫСТАЎКІ

Акруговы музей у Беластоку запрашае ўсіх наведваць галерэю польскага мастацтва і выстаўку разьбы мастака А. Карнага. Музей і выстаўка знаходзяцца ў гарадской ратушы.

Ад 24 ліпеня ў салоне Саюза мастакоў на Рынку Касцюшкі адкрыта выстаўка мастацкага шкла ў выкананні Ю. Гаўліка. (яч)




**Niedziela 5.VIII.**

7.30 Program dnia. 7.35 TV Technikum Rolnicze: „Orka i siew rzepaku". 8.15 „Przypominamy, radzimy". 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 „Świat, który nie może zaginąć" — film dok. ang. 9.25 „W starym kinie" — Wczesne komedie Chaplina — cz. III. 10.10 X Światowy Festiwal Młodzieży i Studentów w Berlinie — Parada przebojów krajów socjalistycznych. 11.10 Niedzielny koncert promenadowy z Berlina. 12.10 Dziennik. 12.25 „Przemiany". 12.55 PKF. 13.05 Teatrzyk dla Przedszkolaków: M. Terlikowska — „Awantura o tamę". 13.50 „Wielkie wyprawy" („Pokochać wiatr") cz. I. 14.20 Losowanie Totolotka. 14.35 „Trapez" — film baletowy TV ZSRR. 15.00 „Piórkiem i węglem". 15.25 „W letnim nastroju" — program rozr. TV Litewskiej. 15.55 „Przyjąć czy odrzucić" — rep. 16.55 Sprawozdanie z półfinału zawodów lekkoatletycznych mężczyzn o Puchar Europy. 18.55 „Kryteria". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Sopot w wiosennej szacie". 21.10 „Własny domek" — film fab. ang. 22.00 Magazyn sportowy. Sprawozdanie z finału kontynentalnych indywidualnych Mistrzostw Świata na żużlu. 23.00 Sprawozdanie z uroczystości zamknięcia X Światowego Festiwalu Młodzieży i Studentów w Berlinie.

**Poniedziałek 6.VIII.**

16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Letnie rozrywki" („Profile kultury") 17.00 Gra Orkiestra Radia i TV Ukraińskiej. 17.35 „Echo stadionu". 18.05 TV Kurier Olsztyński. 18.20 „Oferty". 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.50 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Letni Przegląd Teatru TV: K. H. Roztworowski — „Niespodzianka". 21.40 Program publicystyczny. 22.10 Dziennik. 22.25 TV Studio Muzyki Rozrywkowej.

**Wtorek 7.VIII.**

10.00 „Własny domek" — film fab. ang. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Film muzyczny TVP: „Maurice Bejart — człowiek XX wieku". 17.10 „Rybacy z Mierzeji" ("Morskie spotkania"). 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEFERIE. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 FILMOTEKA ARCYDZIEŁ: „Siedmiu samurajów" — film fab. jap. 22.55 Dziennik.

**Środa 8.VIII.**

9.00 FILMOTEKA ARCYDZIEŁ: „Siedmiu samurajów" — film fab. jap. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Lato nad Szprewą" — film dok. NRD. 16.55 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.15 „Turystyka i wypoczynek". 17.50 „Sylwetki X Muzy" — Stanisław Zaczyk. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.40 „Dialogi historyczne". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Ludzie z Muddy Creek" — film („Bonanza"). 21.05 „Świat i Polska". 21.50 „Artyści, których podziwiamy" — Jerzy Lefeld. 22.40 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 9.VIII.**

10.00 „Ludzie z Muddy Creek" — film („Bonanza"). 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „W Obrytem i gdzie indziej" — rep. film. 17.10 „Na Orawie". 17.45 TV Kurier Mazowiecki. 18.05 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.50 „Kwadrans akademicki". 19.15 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr Sensacji: J.B. Priestley — „Zaciemnienie w Gretley". 21.35 PKF. 21.45 „Refleksje". 22.15 „Ekspres nr. 32". 22.45 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Piątek 10.VIII.**

10.00 „W upojnym rytmie tanga" — film fab. rum. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Nie tylko dla pań". 17.10 „Sztuka niemiecka około roku 1500" — program oświatowy. 17.40 TV Kurier Warszawski. 18.00 TELEFERIE. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Podwójna margaretka" — program rozr. bułg. 20.55 „Panorama". 21.35 Teatr TV na świecie: A. N. Ostrowski — „I koń się potknie" cz. I (spektakl 3 Radzeckiej). 22.50 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Sobota 11.VIII.**

10.00 „Francja naprzód" — film fab. franc. 16.00 Program dnia. 16.05 Program I proponuje. 16.30 Dziennik. 16.40 „Teraz i w każdą godzinę" — film TVP. 17.30 „Spotkania z przyrodą". 18.00 „Przed Uniwersjadą w Moskwie" — program sportowy. 18.30 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Francja, naprzód" — film fab. franc. 21.45 Wiadomości sportowe. Kronika Mistrzostw Polski w lekkiej atletyce. 22.15 „Utwory dla moich przyjaciół". 22.55 Dziennik. 23.10 „Rendez vous nad Renem" — program rozr. TV NRF.




**Piątek, 3 sierpnia**

7.45 Film fab. 8.45 W eterze „Młodość". 9.45 Koncert. 10.15 Szkoła szachowa. 10.45 Filmy dokument. 12.55 Program dnia. 13.00 Film seryjny. 16.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Berlin) — „Dynamo" (Moskwa). 17.45 Spektakl TV. 19.00 Czas. 19.30 Festiwal w Berlinie.

**Sobota, 4 sierpnia**

7.00 Program dnia. 7.25 Film seryjny. 9.30 Przegląd międzynarodowy. 10.15 Filmy animowane. 11.10 Film fab. 13.40 W świecie zwierząt. 16.10 Koncert zespołów amatorskich. 17.20 Festiwal w Berlinie. 19.00 Czas. 19.30 Panorama filmowa. 21.00 Festiwal w Berlinie.

**Niedziela, 5 sierpnia**

7.00 Program dnia. 7.30 Film seryjny. 9.45 Filmy animowane. 10.10 Spotkania muzyczne. 11.15 Film fab. dla dzieci. 12.40 Ekran i czas. 13.40 Koncert. 14.10 Ziemia i ludzie. 15.00 Piłka nożna. ZSRR — Szwecja. 18.00 Klub filmowy. 19.00 Czas. 19.30 Koncert. 20.55 Festiwal w Berlinie.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 175

* * *

Дарога да цябе — нялёгкая дарога
прашу я Дарвіна
зьмяні мяне у абяз'яну
майму каханню хтось падставіў ногу
і дрэва майго шчасця ў сэрца раніў
бяда у тым што ўсё я разумею
мне лепш было б
тупым і безразумным
каб востры вецер
твар тупы абвеяў
мне дзікаму дурному гунну
табе дзячыня
дзякую за боль мой
ён дарагі мне так як боль і радасць
ты вольная
і я таксама вольны
на брак кахання няма рады

**Алесь Барскі**



# Праз Гаркавічы

Пакалечаны гасцінец. Мы зыйшлі на сцежку і пасталі. Першым спыніўся я, сын яшчэ ішоў.

Здалося, што мяне клічуць...

Мы прайшлі ля доўгага плоту пад старымі вішнямі, у якіх кралі падлеткі. Яны прытаіліся, і я пачаў з сынам гутарку аб чымсьці непатрэбным. Забаяўся, што ён, прачнуўшыся са сваіх думак, убачыць зладзеяў! Прайшлі ля надта доўгага плоту, і з навюсенькіх штыхет. Перад намі кульгаў гасцінец: да Юраўлянаў пяць кіламетраў.

Кліча яе голас...

Мне зрабілася брыдка, і я не прыдумаў нічога лепшага ад таго, што мы вельмі спяшаемся... Але яна, пасярэдзіне далёкага панадворка і павернутая да загумення, гаманіла з дзіцём. Выпусціла з рук і, прытвараючыся страшыдлам, бегла за ім. Яно сакатала. І абое пападалі, і зноў пабеглі.

Аж засланілі іх вішні.

Мяне пацягнула назад, у Гаркавічы. Убачыўшы гэта, малыя выраіліся з вішняў на дарогу і ўцяклі ў загоны каноплях ды маку.

Сын голасна засмяяўся; я падышоў да яго, і мы рушылі ў Юраўляны. Ішоў я крокам чалавека, якому не дазволена зрабіць нешта такое, чаго потым шкадаваў бы. Хаця доўга адчуваў на плячах яе позірк, вочы, якія пазнавалі... У раптоўнай цішыні.

У Юраўлянах напіліся з крыніцы. Заначавалі ў Крынках, каб досвіткам выехаць дадому, у Беласток.

Неба ў тую ноч мела васемнаццаць гадоў, чыстае і зорнае.

**Сакрат Яновіч**



# Агонь

Задрыжэў Зеўс грамаўладны
Няўвага ўкрала яму панаванне
Праметэй шчасце даўшы людзям
Не чуў балючых шпонаў арліных

Хто падзяліўся
Чырвоным жарам
Глядзеў на сонца і тварыў песню
Можа было яно богам сусвету
Чалавек меў святы агонь.

Вякі гарэлі слабым надзеяй
Вякі гарэлі багатым згубай
Зарыва часу
Кроў за кроў
А смерць за смерць брата

На зямлю з папялішчаў
Уставалі новыя людзі
З сэрцам у голуба крыллях
І кожны глядзеў у неба
Дзе вечны гарэў агонь

**Ул. Гайдук**

# Спеў салаўя

А сёння
над ранкам
птушкі мяне разбудзілі
салавей
сваім спевам
серабрыстым
усё
перадаў
і шум лясоў
і спёку поля
і смех дзяцей
і пах кветак
блакітнае неба
спяваў
так прыгожа
так чыста
як бы
гэта
Шапэн
сеў і паклаў
рукі на клавішы

**Ірэна Баравік**



Сніўся сон мне. Коні, коні,
Стук капыт, дзе не крунi.
Палавецкая пагоня
І яцвягаў скакуны.

Сцены, сцены Белавежа!
Але й рогат за спіной:
— Не замкнёны твае межы,
Не смяшы, яцвяг, ты — мой!

І над соннаю Лутоўняй,
У надрэчных паплавах,
Мах — тапорык латуневы,
І панік ў траву яцвяг.

Залатыя нашы гоні,
Таму, як узыдзе рунь,
Сняцца ўздыбленыя коні
І крывавая латунь.

**Юрка Зубрыцкі**



## На бельскай гаворцы




Ліпцёвы віетёр закінув пуколь волуос на твар. Муоцно прыгравало пэрэдполуднёвэ слонце і подых того наднаровского свавуольніка прынюос трохі прохлады. Откідаючы з твару забруджаною рукою волосы, Вона зобачыла, як далеко, далеко на горызонті мэрэшчутсе в роспалянум воздусі шары дахуовкі боярськіх домуов.

Чэрэз прытэмнёны окуляры зобачыла таксамо, як досыць шпарко полевою стэжкою прыбліжаетсе хтось на ровэры. Вжэ хотіела знов прынятісе за боротьбу з зіелём, которэ в сіетум році так нахабно заатаковало огуркі, як заміетіла, што ровэрыст як бы затрымовуется коло Еі. Кінувшы ровэр на загуон, пэрэгінаючысе над торбою, помалу подыходів лістонош. Сэрце затрэпоталосе — чыж бы вжэ напісав? Але — што ж то! Заміест знакомого біелого конвэрта, разом со словамі „Помагай Буог", гуость протягнув руку з нэвэлічкім папіерцём. Божэ! Тэлеграма! Што сталосе? — пыталісе Еі очы, біегаючы з папіерця на гостя, то знов на папіерэць. Але спокуойны твар лістоноша як бы говорыв — тіхэнько, тіхэнько, нічого кепського тут нэма.

Оптэршы рукі об джынсы, помаленьку одорвала наклейку... „Другого ліпця ждэм в Городкові, в школі. З прывіетом, Павол".

— Туолько подпіс, — проговорыв лістонош, але Вона як бы нэ чула. Хутко чэркнула на пудсунутым папіерцёві і далі стояла нэрухома...

...нізко над рыкою
сама буду поліваті
друобною слёзою...

...Так, так — піесня. Мнуого пісэнь, мнуого жартов, мнуого дружбы і роботы... мнуого, але як жэш мало рувняючы з сіетымі дэсэтьмі сотымі. Так, сэстра на колёніях, але еслі б і дома была, то што з еі за робуотніця. Той малыш буольш знішчыт як уратуе. А Мама сама? Што ж і Вона дасть рады з сіетымі загонамі. А за пару днюов будэ пуозно... зрэштою, на кого ж вона саділа тые огуркі...

...сама буду поліваті
друобною слёзою...

— знов як бы вжэ дэсь з оддалі почулісе слова піесні з дітячых годуов.

*

Огромна зала Інстытута. Вжэ зобралась кадра. О! Выставка! Ну, цікаво, што ж там е. Ага! Кроніка: „...дісь знов Опекун сказав на добры дэнь дівчатам — котікі, вы гожэ дісь выглядаетэ, але я шчэ вэрнусь до сіетоі тэмы..." О! А тут: „...а дзісь пуд сам вэчур Вася і Лена, в которы то вжэ раз!!! заблудзілісе в пулгэктаровум ліесі...". А што тут? „...кругом Зубкуов направду сэрдэчны людэ; іх слова, іх песні грыэют нашы сэрця... нэ знаем, чы туолько нашы сэрця, чы тожэ сыпучы пісок поміж засохшым вэрэсом, на которум ставім своіе босы ногі...".

А фотографіі? Можэ?... Ніе! Нэ быть!

Тут прыстанок..., тут бэрэзіна..., далі домы пуд шарою дахуовкою..., стэжка..., лістонош...

Ніе! Нэма лістоноша! Туолько огуркі... Дэсэть сотых огуркуов!

**Мікола Врублеўскі**

* * *

Не дажыўшы канца
Дзень
Абарваўся
на захадзе
Праменнем быту апошнім
Асвяціў
радасць свайго існавання
Заззяў чырваннюгнілой
І адкаціўся
ў нябыт
Захапіўся краінаю чараў
Вечнасцю доўга ідучай

**Юрка Харкевіч**

# Вясна

выбітыя словы
праз лета зімы
і гады

зазелянелыя птушкі
лісцем расшабётаныя

прадуцца ніткі маёвыя
клубарыб'е — грыбалоўства

сенакосы
рана росы жамчыны
шэх-эрэзада — пеўня спяванне

адляцець атэстатабраннем
прывітаць у Атаміцах
ліпы Яна

**З. Сачко**



# Хоць трэсні, а давай праграму

Хадуном захадзіў вядомы ўсім чытачам „Нівы" гарадоцкі харавы калектыў. Замітусіліся дзяўчаты. Абставіны прымусілі памаладзець яшчэ на некалькі гадоў і так бадзёрую Ніну Мушынскую — душу калектыву.

Справа ў тым, што дзяржаўнае прадпрыемства „Эстрада" запрасіла кабетак у славутую „Лясную оперу" ў Сопат на вялікі канцэрт рэгіянальных калектываў нацыянальных меншасцей. Выступаць маюць у пачатку жніўня. Бяда толькі, што паэтычна-музычная інсцэніроўка, з якой калектыў выступіў 15.VII.73 г. у Беластоку ў парку, „Эстрадзе" не падышла.

Прадпрыемства жадае адных песень ды танцаў. Вазьмі і апрацуй за некалькі дзён новую праграму! Вывучы новыя песні!

Двояцца і трояцца дзяўчаты. Дзівыдзівосныя твсрацца па ўстановах і прадпрыемствах. Спяваюць работніцы на трыкатажнай фабрыцы „Каро". Кажуць, што ад гэтага выразна ўзрасла прадукцыя кальсонаў. Здзіўлена паглядаюць хворыя на сімпатычную медсястру Раісу, якая ў такт вясёлай прыспеўкі, спрытна мяняе іголкі і, заглянуўшы хуценька ў картку са свежа вывучаным тэкстам, цэліцца шпрыцом куды трэба. А гэта, думаеце, усё. А што адзець? А што абуць? Прычоска свая, ці парык — гэта ж таксама пытанне. Прыгажэйшыя купальныя касцюмы даўно ўжо раскупілі. Трэба дзе-чым блісьнуць на сапоцкай пляжы.

Адны дыстрыбутары заціраюць рукі. Перасталі да іх чапляцца за недахопы ў крамах. Увесь калектыў перайшоў на жорсткую дыету. Трэба ж у шырокім свеце паказаць зграбную гарадоцкую лінію.

**Ларс**



„Мікрафон для ўсіх". Выступаюць Беглюк Ірэна і Назарук Галіна з Гайнаўкі.

# ФЭСТЫН У ЗБУЧЫ

Гайнаўскі аддзел БГКТ пры дапамозе павятовых і гмінных улад і арганізацый 8-га ліпеня арганізаваў у лесе за Збучом фэстын, прысвечаны Дням Савецкай Беларусі ў Польшчы і XXX гадавіне Войска Польскага.

У лясочак, які завуць там „Грабняк", прыбыло многа людзей. Былі прадстаўнікі ўлад: I сакратар павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы Людвік Бартосяк і сакратар па прапагандзе Мікалай Карпюк, кіраўнік аддзела культуры Ваяводскай рады нарадовай Антоні Гжэськевіч; прадстаўнікі ГП БГКТ: старшыня ГП Мікалай Самоцік, член Прэзідыума ГП Аляксандр Баршчэўскі, культурна-асветны кіраўнік ГП Валянціна Філіпюк і арганізацыйны кіраўнік Надзя Даніловіч, старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі ГП Міхась Хмялеўскі; прадстаўнікі ПРН у Гайнаўцы: намеснік старшыні Прэзідыума ПРН Вацлаў Цэглярскі, кіраўнік аддзела культуры ПРН Ірэна Дабжанская, кіраўнік аддзела ўнутраных спраў ПРН Кастусь Бяляўскі, старшыня павятовай рады прафсаюзаў Яраслаў Дабжанскі; прадстаўнікі гайнаўскага аддзела БГКТ: сакратар аддзела Віктар Бура, член прэзідыума аддзела Мікалай Суліма; прадстаўнікі Чыжоўскай гміны: начальнік Мікалай Леўчук, старшыня гміннай рады нарадовай Лявон Карнілюк, сакратары гміннага камітэта ПАРП Юрка Койла і Сцяпан Кот, старшыня гміннага камітэта Фронту адзінства народу Сяргей Насовіч і іншыя мясцовыя актывісты.

Адкрывае ўрачыстасць начальнік гміны ў Чыжах Мікалай Леўчук. Аркестр іграе дзяржаўны гімн Польшчы і Савецкай Беларусі. З дакладам, у якім многа цікавых фактаў аб дасягненнях Савецкай Беларусі, выступае Надзя Даніловіч.

Пасля заканчэння даклада аркестр іграе „Інтэрнацыянал". Затым распачынаецца мастацкая частка.

На трыбуну ўвайшоў гарадоцкі жаночы хор пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы і Ніны Мушынскай. Сваім рэпертуарам ён спадабаўся ўдзельнікам фэстына.

Харавы калектыў з Белавежы пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашука таксама захапіў прысутных. Хор гэты ўзмужнеў і ў апошнім часе дабіўся вялікіх поспехаў. Добрыя там галасы, добрыя выканаўцы беларускіх песень. Гэты хор, па-мойму, з вялікай будучыняй.

Цікава прайшла таксама „Згадуй-згадуля" аб Савецкай Беларусі і БГКТ. Добра адказвалі на пытанні і атрымалі ўзнагароды: Людміла Суліма, Станіслаў Устынюк, Васіль Смольскі і Язэп Дмахоўскі. Пасля „Згадуй-згадулі" паявілася на трыбуне танцавальная група з Белавежы, якой кіруе Янка Крупа. Выконвала яна беларускія, польскія і рускія танцы.

Вялікай папулярнасцю карыстаўся „Мікрафон для ўсіх". Першымі былі дзяўчаты з Клейнік Ольга Парфенюк, Зіна Лабузінская і Зося Грыц. Пасля выступіла шмат удзельнікаў фэстына.



„Згадуй-згадуля".

Арганізатары фэстына наладзілі таксама спартыўныя спаборніцтвы ЛЗС на кубак начальніка гміны. Прынялі ў іх удзел тры спартыўныя каманды з Чыжоў, Збуча і Мора. Найлепшымі былі чыжоўцы, і ім начальнік гміны ўручыў кубак.

Паказы мясцовых пажарнікаў таксама выклікалі вялікае зацікаўленне сярод прысутных. Добра і тое, што арганізатары гэтай урачыстасці падумалі аб кніжным кіёску, аб спажывецкіх кіёсках і аб кіёсках з рознымі ласункамі. Фэстын закончыўся вялікай забавай і сяброўскім спатканнем арганізатараў з запрошанымі госцьмі.

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага**



Удзельнікі фэстына.

# Ф-А-Л-Ь-К-Л-О-Р

**СЯМЕЙНАЯ**




*Пасеяў бы жыто — німа кому жаці,*
*А мне маладому ні з кім размаўляці.*
*А мне маладому ні з кім размаўляці.*
*— Ой, вазьмі ты, сынку, рубля залатого*
*І купі ты, сынку, коня вараного.*
*І купі ты, сынку, коня вараного.*
*І купі ты, сынку, коня вараного.*
*Пастаў у стаенцы, размаўляй да ёго.*
*Пастаў у стаенцы, размаўляй да ёго.*
*— Конь вады нап'ецца, на салому ляжэ,*
*А мне маладому праўданькі ні скажэ.*
*А мне маладому праўданькі ні скажэ.*
*— Запрагай ты, сынку, коня вараного,*
*Едзь на Украіну, выбірай дзяўчыну.*
*Едзь на Украіну, выбірай дзяўчыну.*
*— Ой, на што мне, мамо, тая Украіна,*
*Калі ў суседа любая дзеўчына!*
*Калі ў суседа любая дзеўчына!*
*— Ні дзівісе, сынку, на чорные брові,*
*А дзівісе, сынку, на сівые волы.*
*А дзівісе, сынку, на сівые волы.*
*— А сівые волы возьмут поздыхают,*
*А чорные брові нігды ні зліняют.*
*А чорные брові нігды ні зліняют.*

Ад Клаўдзіі Домань, 1912 года нараджэння, і Васіля Доманя, 1902 года нараджэння, вёска Новая Воля Беластоцкага павету, запісаў 22 чэрвеня 1973 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

# Чыста ў краме і на... полках

У часе сенакосаў прышлося мне наведаць плёскаўскую краму. Вядома, людзі не мелі часу едзіць за хлебам, булкамі, півам ці аранжадай у горад. А пры цяжкой рабоце хочацца і трэба добра і смачна з'есці, ды піць пры такой жарышчы хочацца, хочацца.

У краме была чысціня і парадак. За прылаўкам стаяў малады хлапец, таксама акуратна апрануты і ветліва адказваў на маё „ці ёсць..." — „на жаль, няма". На большасці полак было пуста. Хлеба і булак, праўда, прывезлі, але так мала, што я толькі паспела пачуць, што новы тавар у краме, нат веласіпедам не паспела прыехаць і купіць хлеба і булак. А дражджэй таксама няма, вось і еш сабе на здароўе чорны і цвёрды, як камень, хлеб, спечаны тры тыдні таму назад.

Гавораць, што новы прадавец не абазнаны са сваёй працай, і таму такія непаладкі. Трэба было б як мага хутчэй упарадкаваць справы ў плёскаўскай краме. Трэба ж дапамагчы людзям, якія цяжка працуюць у жніво. (на)

## МАТАРОЛЕРЫ З КНІЖАК ПКО

У розыгрышы ў Варшаве прыняло ўдзел 21.240 кніжак па 500 зл. Выйграна 16 матаролераў. З Беластоцкага ваяводства выйграў уладальнік кніжкі ў Элку.

Дагэтуль уладальнікі такіх кніжач ПКО ў Беластоцкім ваяводстве выйгралі 44 матаролеры. (вл)

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

### СПАБОРНІЦТВЫ НА „СЯРЭБРАНЫ МУШКЕТ"

У Бельску Падляшскім адбыліся спаборніцтвы на „сярэбраны мушкет", у якім прымала ўдзел 13 каманд з ліцэяў і сярэдніх прафесіянальных школ з паветаў: Сямяціцкага, Гайнаўскага і Бельскага. Першынство заваявалі хлопцы з Гайнаўскага ліцэя, сярод жаночых каманд — дзяўчаты з Сямяціч. Індывідуальна найлепшымі былі вучні з бельскіх школ: Антаніна Шымчук з Эканамічнага ліцэя і Павел Гуральчук з Агульнаадукацыйнага ліцэя. (ця)

# Адпачынак у сяброў

Амаль месяц адпачываюць на Беласточчыне дзве групы школьнікаў з Савецкага Саюза. Адна з груп размясцілася ў вёсцы Старына Гайнаўскага павету, у вясковай школе. Тут ужо не першы год арганізуюцца летнія калоніі для польскіх дзяцей, але госці з Беларусі адпачываюць тут упершыню.

Школа ў Старыне выдзяляецца як культурны цэнтр на цэлую акругу. Тут і спартыўныя пляцоўкі, і веласіпеды, і нават свой плавацельны басейн. Жывецца тут весела, цікава і сапраўды, як дома. У калонію прыязджаюць часта вясковая моладзь і дзеці. Завязваюцца розмовы, а потым і сяброўства. Неяк незвычайна здаецца пагаварыць на роднай мове за граніцай. І таму такія гутаркі вельмі частыя. Першым, хто наведаў нашу калонію, быў малады гаспадар са Старыны Віктар Барунь. А цяпер вясковых хлопцаў і дзяўчат прыходзіць многа.

Варта адзначыць, што нам падрыхтавана разнастайная і цікавая праграма. Мы ўжо пабывалі ў Варшаве, Белавежы, Аўгустове. Кожны з нас атрымаў падарункі ад сваіх польскіх сяброў і ад арганізацый Беластока, што запрасілі нас на адпачынак.

Шмат гасцей прыязджае зараз у Старыну. Мы сустракаліся з работнікамі партыйных органаў Беластока і Гайнаўкі, органаў асветы, прафесіянальных саюзаў, прадстаўнікамі Падляшскага будаўнічага прадпрыемства электрычнай інсталяцыі ў Беластоку. Нядаўна наведала дэлегацыя з Савецкага Саюза, якую ўзначальваў сакратар Гродзенскага абкома КП Беларусі А. І. Ульяновіч.

Цудоўны адпачынак атрымалі мы на Беласточчыне. Шчырае дзякуй за гэта.

**Павел Шаўчук,**

кіраўнік групы савецкіх школьнікаў, старшы рэдактар студыі тэлебачання ў Гродна

## ПРАДКАЗАЛА...

Лёнька Бабок быў у добрым настрої. Ён атрымаў аванс, прыняў удзел у аперацыі „на траіх" і лагодны, цёпленькі, прахаджваўся па пероне ў чаканні цягніка.

Усё навакол было ў мяккіх, ружовых фарбах. І дрэвы, і вараб'і, і людзі. Нават пажылая цыганка ў пышнай квяцістай кофце здалася яму дужа прыгожай.

— Дай, саколік, ручку — паваражу: пра мінулае скажу, будучае прадкажу, думкі твае ўгадаю, — пявуча і складна звярнулася цыганка да Лёнькі.

„А чаму б і не паваражыць? Мо і сапраўды што скажа і прадкажа?" — падумаў Лёнька і нерашуча працягнуў руку варажбіцы. Тая ўчапілася за руку і пацягнула Лёньку ў бязлюдны завулак. Там, перш чым варажыць, прапанавала:

— Улагодзь ручку, саколік!

— Заплаціць, значыць? — паспрабаваў здагадацца Лёнька.

— Не, — запярэчыла варажбітка, — разлічымся з табою пасля варажбы. А цяпер проста пакладзі на руку дзесяць злотых.

Лёнька паклаў грошы. Варажбітка спрытна пераклала іх у левую руку і сказала:

— Цябе ў бліжэйшы час чакае непрыемнасць. Цяпер дай трыццаць і я скажу, чым яна скончыцца.

Калі Лёнька паклаў грошы, варажбітка вярнула яму дзесяць.

— А цяпер пяцьдзесят.

Лёнька паклаў пяцьдзесят і атрымаў трыццаць з чарговай прапановай:

— А цяпер — сто!

Лёнька паклаў сто. Грошы імгненна зніклі ў глыбокай кішэні варажбіткі. Лёнька кінуўся адбіраць свае грошы.

— Ратуйце! Гвалтуюць! — залямантавала варажбітка і з сілай рванула сваю квяцістую кофту... Лёнька куляй выскачыў з завулка і паімчаўся па вуліцы. А ўслед яму крычалі:

— Трымай! Лаві!

Крыкі множыліся і няўмольна набліжаліся. Калі ж у гэтым лямантце Лёнька пачуў пранэлівы міліцэйскі свісток, то адразу зразумеў: уцячы не ўдасца.

Так і здарылася: Лёньку за свае ж грошы і за ўласнае глупства давялося апраўдвацца ў міліцыі... Выходзіць, прадказала варажбітка, што будзе непрыемнасць.

**Мікалай Янчанка**

*Без слоў.*

### ЯКІЯ СЛОВЫ

Прафесар: — Якія тры словы студэнт ужывае найчасцей?

Студэнт: — Я не ведаю.

Прафесар: — Правільна!

## НІЎКА

### НА ПАХМЕЛЛЕ

Адзін выпівоха чуць свет прачнуўся ды гукае:

— Кума! Наліце шклянку гарэлкі!

— Няма гарэлкі, — адказала жонка.

— Ну дык піва.

— Няма і піва.

— А дзе ж гэта я?

— Дома, ідале, дома.

— А-а-а... Тады падай вады.

### ДБАЙНЫ СЫН

*— Што ты з заробленымі грашыма робіш, Пятрук?*

*— Тое-сёе куплю, у рэстаран схаджу, а што застаецца — бацькам пасылаю.*

*— І многа ўжо выслаў?*

*— Ды пакуль што нічога не заставалася.*

*На прагулцы.*

### ГУМАР З...

### ШТО ЗРОБІШ

**Суддзя.** Жонка ваша кажа, што вы яе пабілі ў нядзелю.

**Муж.** Ваша высакароддзе, што зробіш, у будні дзень часу няма біць.

### МІНІБАЙКІ

### КОНЬ І АВАДЗЕНЬ

Конь-ламавік цалюткі дзень  
Цягаў вазы, што сілы...  
Аднекуль „дзынь-дзынь" Авадзень.  
І сеў Каню на спіну.  
А ўжо назаўтра, чуем, днём  
Размовы йдуць такія:  
Той Авадзень удвух з Канём  
Вазіў вазы цяжкія.

**Пятро Перац**

### АПТЫМІСТКА

Дзве жабы, трапіўшы ў пуза змяі, абмяркоўвалі сваё складанае становішча.

— Нам чартоўскі не пашанцавала, — сказала сумна адна.

— Не спяшайся з вывадамі, — спыніла яе другая. — Затое ў нас ёсць і ежа і дом.

— Гэта правільна, — згадзілася першая жаба, — жыллём мы абяспечаны на ўсё жыццё, але не бачу, дзе ежа.

— Ну ж ты і буркуха! — з дакорам заўважыла ёй сяброўка. — Мы і ёсць ежа.

**А. Бірс**

### ШТО ЯШЧЭ?

*Галівудская актрыса прыйшла да псіхіятра са скаргай на дэпрэсію. Лекар параіў ёй змяніць спосаб жыцця і перамяніць абставіны.*

*— Доктар, — уздыхнула зорка, — за апошнія гады я змяніла сем аўтамабіляў, пяць кватэр, дванаццаць прад'юсераў, шэсць мужоў і шматразова колер валос. Скажыце мне, што яшчэ я павінна змяніць?*

### ЁН ВЕДАЕ...

— Паслухай, Люся, чаму ты пасварылася з Кастусём?

— Таму, што ён ведае масу непрыстойных песенак!

— Ды ён што, спяваў іх табе?

— Не, насвістваў.

### НЕ МОГ ПАЧАКАЦЬ

Адна жанчына скардзілася суседцы:

— Ваш сын абарваў усе грушы у маім садзе. А яны яшчэ ж зусім зялёныя!

— Вось паскуднік! Не мог пачакаць пакуль даспеюць.

### ВЕЛЬМІ ЦІКАВА

Аўташкола выпусціла вялікую групу шафёраў. З прамовай выступіў дырэктар, павіншаваў з паспяховым заканчэннем навучання. Потым курсантам уручылі пасведчанні. Ужо мелі разыходзіцца, калі падняў руку адзін з новаспечаных шафёраў і сказаў:

— Выбачайце, пане дырэктар, але мяне вельмі цікавіць, чаму яна ўсё-такі едзе, гэта машына?

### ВЫТЛУМАЧЫЎ

Ловіць хлопец рыбу, аж ідзе дзядзька і пытае:

— Ну як, рыба не зрываецца?

— Ды калі як. Калі выцягну на бераг, дык не зрываецца, а як яшчэ да берага цягну, дык бывае, што і зрываецца.

### ЗГОДНА З НАВУКАЙ

Прыслалі ў вёску новаспечанага заатэхніка. Падыходзіць да яго загадчык птушкафермы.

— Парайце, што рабіць? — гаворыць. — Што ні дзень — куры здыхаюць і здыхаюць.

— А вы іх чым корміце? — пытае заатэхнік.

— Ды чым давядзецца. То ячменем кормім, то аўсом.

— Гэта дрэнна. Згодна з навукай, іх трэба карміць просам.

Праходзіць некалькі дзён.

— Зноў здохла сто пяцьдзесят кур, — заяўляе заатэхніку загадчык фермы.

— А якою вадою вы іх поіце?

— Звычайнай, з калодзежа.

— Гэта вельмі дрэнна. Згодна з навукай, курэй трэба паіць толькі цёплай вадой.

Праходзіць тыдзень.

— Здохла яшчэ сотня курэй, — рапартуе загадчык фермы. — Вашы парады нешта не памагаюць. Мо навука ведае якія-небудзь рэкамендацыі лепшыя?

— Паслухайце, дарагі мой, — адказвае новаспечаны заатэхнік. — Навука мае яшчэ мноства радыкальных рэкамендацый, але вы спачатку скажыце, ці многа ў вас на ферме курэй засталося?

*— Гэта тыя тры дні, калі не было піва.*

*— Рацыяналізацыя.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Сымона Васілюка з Плютыч Бельскага павету змяшчаем песню з рэпертуару „Чырвоных гітар"

## Wróćmy na jeziora

Kiedy wrócą ptaki do mazurskich gniazd,  
Ruszaj tam — gdzie już żeglarze płyną szlakiem gwiazd.  
Wróćmy na jeziora, na wędrowny rejs.  
Znajdziesz tam cel swojej drogi, wśród szumiących drzew.

Białe żagle, szmaragdowa toń.  
A przy tobie przyjacielska dłoń (bis).

Wrócisz tam z gitarą, gdzie ogniska blask.  
Zostań tu — noc śpi w szuwarach, pieśni słucha las.  
Wróćmy na jeziora, na samotny brzeg.  
Zostań tu, gdzie las i woda, masztów cichy śpiew.

Białe żagle, które kryje mgła.  
I nie mów nic — bo przygoda trwa. (bis)

Wróćmy na jeziora, gdy zapadnie mrok.  
Znajdziesz tu swoją przygodę,  
Wrócisz tu za rok...

*Чаго ў спорце не бывае!*

### МАЎЧЫ ЗА СТАЛОМ

Селі абедаць, а хлопец:

— Мама...

— Маўчы за сталом! — спыніў бацька і ляснуў сына лыжкаю па лобе.

Паабедалі. Маці пытае ў хлопца:

— Што ты хацеў сказаць?

— У мяне лыжкі няма...

### ІГРА НА СКРЫПЦЫ

Жонка мые посуд, а муж — на балконе.

— Што ты робіш? — пытае жонка.

— На скрыпцы іграю!

— А я падумала, што ты нажку стала адпільваеш.

### НЕРАЗЛУЧНЫЯ

Цёмнай вуліцай, абняўшыся, ідуць двое п'яніц.

— Дружа, падтрымай мяне, каб я тут не ўпаў! — кажа адзін.

— Э, не, як ты ўпадзеш, дык і я ўпаду. Я цябе тут самога не пакіну.

**...Ён і па тэлефону можа ўваткнуць нож у спіну.**

**...На суд нашчадкаў ён надзеі не пакладаў: ведаў, што рашэнне будзе не на яго карысць.**

## КУРЁЗЫ

### ЗАЖМУРЫЎШЫ ВОЧЫ

У якой толькі паставе не даводзілася працаваць рэпарцёру, каб атрымаць удачны здымак! Швед Оле Сюндб'ю, напрыклад, здымае пейзажы ў Лапландыі з верталёта, учапіўшыся рукою і нагою за вяровачную драбіну.

— Як вы выглядаеце аб'ект на зямлі? — спыталі Сюндб'ю, здымкі якога былі прызнаны найлепшымі працамі года, студэнты-журналісты.

— Выглядаю? Ды я ад страху вачэй адкрыць не магу! — адказаў маэстра.

### ПРЫВІД НА ПАСТУ

У бразільскім штаце Сан-Паўлу, дзе шафёры слывуць з анархічнасці, праведзена кампанія за бяспеку вулічнага руху. Улады падтрымліваюць усялякую ініцыятыву і выдумку пешаходаў і ім падобных, калі яна прымушае шафёраў быць больш уважлівымі і асцярожнымі за рулём. Першае месца атрымаў вынаходлівы веласіпедыст, які пераадзяўся за прывіда, спадзеючыся, што можа гэта ўселіць асцярожнасць у шафёраў і ўстрымае іх ад жадання яго задушыць...

### СМЕЮЦЦА З НАМІ

Насуперак усім законам фізікі чуткі распаўсюджваюцца хутчэй гука.